«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№11(24) декабрь 2011

# ЗВАРОТ ПРАДСТАЎНІКОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ БЕЛАРУСІ

**з нагоды пачатку збору сродкаў для праваабаронцы Алеся Бяляцкага**

24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёна г. Мінска віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Нягледзячы на абстрактны характар абвінавачання, абсалютную адсутнасць доказаў, вялікую колькасць працэсуальных парушэнняў, супярэчанне абвінавачання беларускаму заканадаўству і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь, суд беспадстаўна прызнаў вінаватым Алеся Бяляцкага ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, праігнараваўшы аб'ектыўныя сведчанні пра тое, што замежныя сродкі накіроўваліся не на ягоную карысць, а выключна на вызначаныя мэты праваабарончай дзейнасці. У сувязі з гэтым дадзеныя сродкі не з'яўляліся аб'ектам падаткаабкладання. Насуперак заканадаўству суд прызнаў сродкі, накіраваныя Праваабарончаму цэнтру "Вясна" у якасці дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэнняў правоў чалавека, асабістым прыбыткам Алеся Бяляцкага. Працэс па справе старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" ў чарговы раз паказаў, што ў Беларусі адсутнічае незалежны і аб'ектыўны суд.

Алесь Бяляцкі не прызнае сваёй віны ў інкрымінаваным яму злачынстве і настойвае на сваім апраўданні. Прысуд абскарджаны згодна з заканадаўствам у касацыйным парадку ў Мінскі гарадскі суд.

Мы, прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці, асуджаем незаконны прысуд Алесю Бяляцкаму і, улічваючы палітычную матываванасць справы, лічым, што ў дадзенай сітуацыі неабходна прыкласці ўсе намаганні для найхутчэйшага яго вызвалення.

Мы заклікаем беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і Праваабарончым цэнтрам "Вясна", які ў экстрэмальных умовах вось ужо 15 год бароніць правы беларускіх грамадзянаў.

У сувязі з гэтым, з мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду, мы распачынаем кампанію па зборы сродкаў, якія былі прысуджаныя Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці "шкоды, нанесенай злачынствам".

Сума, якую неабходна сабраць, складае 757.526.717 (семсот пяцьдзесят сем мільёнаў пяцьсот дваццаць шэсць тысяч семсот сямнаццаць) рублёў.

Гэтую суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе, таму сабраць неабходныя сродкі мы просім як мага хутчэй, на



працягу бліжэйшых некалькіх тыдняў, каб гэта магло паўплываць на вызначэнне касацыйнай інстанцыі.

Сума, якую неабходна ўнесці, сапраўды вельмі вялікая, але пасільная, калі беларускае грамадства праявіць свае найлепшыя якасці – салідарнасць, адказнасць, імкненне і волю да справядлівасці.

Мы падкрэсліваем, што пералічэнне гэтых грашовых сродкаў не азначае прызнання віны Алесем Бяляцкім – гэта толькі наша салідарная акцыя, накіраваная на вызваленне незаконна асуджанага праваабаронцы.

Грошы ў любым памеры могуць быць пералічаныя на рахунак, адкрыты на імя жонкі Алеся Бяляцкага:

УВАГА! Грошы могуць пералічаць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.

Філіял №529 "Белсвязь" ААТ "АСБ Беларусбанк", код банка 720, аддзяленне 112.

№ банкаўскага ўкладу: 01053568 (да запатрабавання)

від плацяжа: ахвяраванне (альбо дабраахвотны плацеж)

Атрымальнік плацяжа: Пінчук Наталля Сяргееўна.

Раім праводзіць аплату ў аддзяленнях "Беларусбанка" (каб пазбегнуць лішніх банкаўскіх плацяжоў)

У далейшым сродкі будуць накіраваны на адпаведны дзяржаўны рахунак.

Шаноўныя грамадзяне, мы просім кожнага пералічыць любую магчымую для Вас суму грошай у якасці ахвяравання праз аддзяленні банкаў, а арыгінал квітанцыі даслаць на адрас: 220012 г. Мінск, пр. Незалежнасці, д.78а, кв.48.

Таксама з намі можна звязацца па тэлефоне +375 17 331 08 44 (гарадскі) ці праз электронную скрыню viasna@spring96.org

http://spring96.org/be/news/48326

# У ВІЦЕБСКУ НЕ ДАЗВОЛІЛІ АКЦЫЮ

**У Віцебску забаранілі акцыю да гадавіны падзей 19 снежня**

Арганізатара меркаваных сходу і шэсця, каардынатара Руху "За Свабоду" Хрыстафора Жаляпава, а таксама заяўніка мерапрыемстваў Аляксея Гаўруцікава выклікалі ў пракуратуру.

Віцебскія актывісты збіраліся правесці сход каля так званага «Сіняга дому» на вуліцы Леніна і невялікае шэсце да плошчы Свабоды.

Заяўкі падалі ў Віцебскі гарвыканкам. Аднак, як паведамляе Радыё Свабода, абедзьве імпрэзы забаранілі з тае прычыны, што да заяўкі не былі прыкладзеныя дамовы са службамі ЖКГ, мэдыкамі і міліцыяй.

Адначасова зь пісьмовай забаронай заяўнікаў Аляксея Гаўруцікава, даверраную асобу Міколы Статкевіча на выбарах 2011 году, і Хрыстафора Жаляпава, каардынатара руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласьці, выклікалі ў абласную пракуратуру.

Гаўруцікаў мусіць зьявіцца туды 15 сьнежня да 14-ай гадзіны. Гаўруцікаў лічыць, што падставы для выкліку наступныя: «Хутчэй за ўсё, нас будуць папярэджваць пра адміністрацыйную адказнасьць у выпадку правядзеньня масавага мерапрыемства без дазволу ўладаў».

Адказу ад гарадзкіх уладаў наконт яшчэ адной акцыі да 19 сьнежня яшчэ чакае актывіст «Эўрапейскай Беларусі» Ўладзіслаў Варанецкі. Ён падаваў заяўку ў адміністрацыю Чыгуначнага раённую Віцебску, каб у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў правесьці пікет салідарнасьці з палітвязьнямі.

# РЭПРЭСІЎНЫЯ ПАПРАЎКІ Ў ДЗЕЯННІ

**Рэпрэсіўныя папраўкі ў Закон "Аб масавых мерапрыемствах" у дзеянні**

Заяўка віцебскіх актывістаў апазіцыі на правядзенне 19 снежня акцыі, прысвечанай гадавіне прэзідэнцкіх выбараў, скончылася не толькі забаронай з боку мясцовых уладаў з тае прычыны, што да заяўкі не былі прыкладзеныя дамовы са службамі ЖКГ, медыкамі і міліцыяй.

Арганізатара, лідара Руху "За Свабоду" ў Віцебскай вобласці **Хрыстафора Жаляпава** і заяўніка акцыі **Аляксея Гаўруцікава** (ён быў давераннай асобай Мікалая Статкевіча на выбарах-2010) выклікалі ў пракуратуру.

Жаляпаў знаходзіцца ў ад'ездзе, а таму прыйсці туды не змог, а вось Гаўруцікаў атрымаў афіцыйнае папярэджанне за абнародаванне на інтэрнэт-рэсурсах даты, часу і месца правядзення акцыі да атрымання дазволу на яе.

Пракуратура Віцебскай вобласці спаслалася пры гэтым на Закон "Аб масавых мерапрыемствах", які, нагадаем, нядаўна стаў больш жорсткім: "Згодна з ч.2 ст.8 Закона да атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства яго арганізатар, а таксама іншыя асобы **не маюць права ў сродках масавай інфармацыі, глабальнай кампутарнай сеткі інтэрнэт або іншых інфармацыйных сетках аб даце, месцы і часу яго правядзення, выраблязь і распаўсюджваць з гэтай мэтай улёткі, плакаты і іншыя матэрыялы"**. (Выдзелены фрагмент - якраз ўнесеная папраўка ў Закон - Рух.by)

Парушэнне гэтага парадку, як паведамляецца, цягне за сабой папярэджанне, або спагнанне штрафу ў памеры 30 базавых велічынь, або адміністратыўны арышт. Не выключана, што Хрыстафор Жаляпаў як арганізатар у выніку атрымае больш суровае пакаранне, чым Аляксей Гаўруцікаў.

"Арганізатары паведамлялі аб тым, што яны падалі заяўку на правядзенне мерапрыемства, і пазначылі інфармацыю, якая змяшчалася ў заяўцы (дата, час, месца), а не заклікалі людзей прыходзіць на масавае мерапрыемства да яго дазволу. Арганізатары дзейнічалі выключна ў рамках прававога поля пры падачы заяўкі, а супрацоўнікі пракуратуры перастрахаваліся. Можа быць, перагледзелі сюжэтаў аб нядаўніх масавых акцыях у Расіі і вырашылі не дапусціць масавага таптання людзей у ціхім Віцебску. Як бачым, таварышы следчыя і пракуроры чытаюць незалежныя інтэрнэт-рэсурсы і трымаюць руку на пульсе!", - так пракаментаваў сітуацыю юрыст Руху "За Свабоду" Андрэй Сушко.

Адзначым, што такім чынам упершыню апазіцыянеры падвяргаюцца пакаранню за інфармацыю пра акцыю пратэсту ў інтэрнеце да дазволу на яе правядзенне.

# ГРАФІТЫСТЫ НАМАЛЯВАЛІ ЕЎРАПЕЙСКІ ВІЦЕБСК

**У Віцебску адбыўся другі фэст графітыстаў «Гравітацыя». Свята вулічных мастакоў мусіла прапагандаваць гэты від мастацтва.**

Першую "Гравітацыю" зладзілі ў 2009 годзе пад эгідай абласнога краязнаўчага музея. Сёлета "Гравітацыя" прайшла на прыватнай тэрыторыі. Вулічных мастакоў запрасіў да сябе віцебскі Еўрапейскі клуб. І тэматыка работ была адпаведнай — "Еўрапейскі Віцебск".

Як распавёў каардынатар праекту Раман Воранаў, трапіць на "Гравітацыю" не вельмі проста. Папярэдне графітысты павінны даслаць эскіз будучага малюнка. Калі арганізатары вырашаць, што ён адпавядае заяўленай тэме ды мае высокі мастацкі ўзровень, аўтара запрашаюць на фэст.

Сёлета ў "Гравітацыі" ўзялі ўдзел вулічныя мастакі з Віцебска, Мінска, Маладзечна і Оршы. «Еўрапейскі Віцебск» атрымаўся розным і рознакаляровым. Вядома, не абышлося і без шагалаўскай тэматыкі.

Источник: Еўрарадыё Фота: vitebsk4.me

http://www.youtube.com/watch?v=-w7VBIsa-8o&feature=related

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ДАЦЬ ДРУГОЕ ДЫХАННЕ МУРАМ

**Размова пасля імпрэзы-падарожжа па верхнядзвіншчыне.**

Бадай ніхто не ведае Верхнядзвіншчыну так як **Антон Бубала**, мясцовая знакамістасць: паэт, журналіст, вядомы краязнавец, апантаны і неабыякавы чалавек, сустрэча з якім - заўсёды нечаканка, заўсёды ўзрушанасць адносін гэтага чалавека да нашай матэрыяльнай культуры далёкага мінулага, з якім я гутару сёння.

БУБАЛА: Зацікаўленне турыстаў у пошуку слядоў мінуўшчыны нарастае лавінай, а ў Верхнядзвінскім раёне на нашых вачох літаральна расцягваецца па цагліне найстарэйшы помнік архітэктуры, апісаны ва ўсіх энцыклапедыях і каталогах. Гаворка ідзе пра Асвейскі шпіталь манастыра сясцёр міласэрнасці, пабудаваны ў 1759 годзе. Някідкі звонку будынак тым не менш заўсёды прыцягвае ўвагу экскурсантаў, якія кіруюць у парк, сваім імпазантным размяшчэннем. Тым больш, што, акрамя яго, ад былой велічы старажытнай Як жа мы зберагаем гэтую нашу каштоўнасць нумар адзін? Прызнаюся шчыра: штораз, калі экскурсанты просяць расказаць пра будынак былога шпіталя і паказаць яго зблізу, мяне ахоплівае неадольнае пачуццё сораму. У мястэчку Асвеі нічога не засталося.

За гэты будынак удвая крыўдна ад таго, што ён справўна выконваў свае функцыі на працягу чвэрці тысячагоддзя, а пасля пабудовы новай бальніцы ў Асвеі стаў раптам нікому не патрэбны. Але ж гэтыя сцены прастаяць яшчэ не адно стагоддзе!

БОЛБАТ: Ці ж нам мала яшчэ адной Вопытнай, якая стала наглядным дапаможнікам па бездапаможнасці закона аб ахове культурнай спадчыны?

БУБАЛА: На памяці аднаго пакалення рамантычная сядзіба з прыгожым палацам, лебядзінай сажалкай і капліцай ператварылася з дагледжанага дзівоснага куточка у жахлівы помнік занядбання. За той час, калі адсюль з'ехаў зааветэрынарны тэхнікум і будынкі з наваколлем пачалі пераходзіць з рук у рукі, з баланса на баланс: ад саўгаса "Росіца" да аддзела адукацыі, ад яго – ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі, затым у КБА,– помнік архітэктуры прайшоў праз усе стадыі разбурэння і фактычна застаўся жыць толькі ў прыгожых апісаннях і чарцяжах тыхсама энцыклапедый..

БОЛБАТ: Што ўжо казаць пра тыя камяніцы, якія з нейкіх прычын не былі ўключаны ў спісы помнікаў культуры, але несумненна з'яўляюцца імі. У нашым райцэнтры іх не налічыш і дзясятка. Большасць з іх так ці інакш пацярпелі ад рук гаспадароў-уладальнікаў.

БУБАЛА:Нехта не змог вырашыць "складаную праблему" па прыстасаванні арачных завяршэнняў акяніц пад еўравокны і вырашыў іх проста замураваць, як гэта зрабілі ў будынку аб'яднання па племяннай справе; іншыя заляпілі цагляныя ўзоры сцен сайдынгам ці зладзілі сурагатнае пакрыццё "пад стыль" (крама "Глобус") і г.д. Яшчэ іншы, відаць, багацейшы ўладальнік, наогул вырашыў адмовіцца ад "старызны", не пашкадаваўшы грошай на сучасныя пабудовы.

Асабліва паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца прыклад з так званым "пакгаўзам" – чырвоным цагляным будынкам, што стаіць над ракою Дрысай напрыканцы вуліцы Ленінскай, там, дзе раней быў адзіны мост, праз які праходзіў галоўны тракт, што злучаў горад з навакольным светам і дзе, па ўсёй верагоднасці, быў прычал для рачных грузавых суднаў, што заходзілі сюды з Дзвіны або прыплывалі з Себежа.

Будыніна выконвала складскія функцыі да зусім нядаўняга часу, ёй карысталіся арганізацыі гандлю. Зараз яна стала быццам "бясхознай", бо так і кідаецца ў вочы яе абсалютная "непатрэбнасць".

Памяшканне больш як на поўтысячы кубоў, а з прыбудовай і паддашкам – на ўсю тысячу – ды гэта ж цэлае багацце! Калі ж улічыць моц сцен паўметровай таўшчыні, здаровую драўніну перакрыццяў, то становіцца зразумела, што марнаваць такую матэрыяльную (не кажучы ўжо аб культурнай) каштоўнасць – гэта не толькі відавочная безгаспадарчасць, але нават цягне на злачынства. Дрэнны той гаспадарнік, які руйнуе тое, што можна карыстаць яшчэ сто гадоў, і вышуквае сродкі на стварэнне сумнеўных эрзац-шэдэўраў еўрастылю.

БОЛБАТ:Антон, адносна гэтай будыніны ўжо нараджаліся прапановы…

Нарадзілася думка звярнуцца з ініцыятывай на адрас райвыканкама, сутнасць якой у наступным. Былы "пакгаўз" было б разумна перадаць пад сумесную апеку аддзела культуры і, скажам, грамхарчу, усклаўшы частку расходаў на папярэдняга гаспадара, які не забяспечыў утрыманне будынка ў належным стане. Вялікі галоўны аб'ём як найлепш падыходзіць для выкарыстання яго ў якасці выставачнай залы. Функцыянальна яна магла б выконваць таксама ролю лекцыйна-канцэртнай залы. Цэгла ў спалучэнні з каваным аздабленнем свяцільнікаў паспрыяла б стварэнню адпаведнай атмасферы падчас экскурсій, лекцый для гасцей на гістарычныя тэмы, камерных канцэртаў ці выступленняў фольк-груп, танцавальных баляў у сярэдневечным стылі.

Побач у меншым памяшканні можна было б абсталяваць утульную кавярню. Згадзіцеся, што ў старажытным нашым горадзе ніводная з устаноў грамхарчу не мае водару колішняй Дрысы. Нават іх размяшчэнне не спрыяе гэтай мэце. А тут – круты бераг "варажскай" ракі, вольны пляц з супрацьлеглага боку, акаймаваны паўкольцам дрэў над раўком – "загатоўка" пад гасцінны астравок адпачынку. І гарадскі цэнтр тутсама паблізу. Не шкодзіла б на "дворыку" размясціць нейкія рарытэты даўніны, на прылеглым адрэзку вуліцы аднавіць брукаванку; ды і сама гэта найстарэйшая вулка горада заслугоўвае

## ІНФАРМАЦЫЯ

У Віцебску працуе Еўрапейскі Інфармацыйны цэнтр. Жыхары горада могуць атрымаць неабходную інфармацыю пра Еўразьвяз і дзейнасьць інстытутаў ЕЗ кожныя чацьвер з 15.00 да 19.00, суботу з 12.00 да 18.00, нядзелю з 11.00 да 17.00. Запрашаем на вул.1-ю Сенненскую, д.5. Кантактны тэл. 27-23-39

# ДАЦЬ ДРУГОЕ ДЫХАННЕ МУРАМ

сваім узростам вяртання колішняй назвы а ці нейкай адпаведнай гэтаму ўзросту, напрыклад, Замкавай, Крывіцкай ці Шляхетнай.

Старыя камяніцы ці іх фрагменты нешматлікія і па-за межамі райцэнтра. Акрамя Асвейскага палаца, гэта былая царква ў Чурылаве, стайня ў Дзёрнавічах, парушаныя будыніны ў Валынцах і Казуліне, Луначарскім ды Расіцы, рэшткі скляпенняў у Міхаліне, Навіках, Княжыцах ды руіны Пустэльніцкага млына – вось амаль поўны пералік таго, што засталося ад войнаў і пасляваенных разбурэнняў. Тым большая цана нават гэтых, у большасці знявечаных, сведкаў мінулых стагоддзяў. Калі б ім забяспечылі хаця б статус недатыкальнасці, то яны, не засмечаныя друзам, ламаччам і дэбільнымі надпісамі на сценах, выратаваныя ад быльнягу і ўшанаваныя не толькі шыльдамі, але і чалавечай увагай, адной сваёй прысутнасцю аддзячылі б нам у прышласці, бо грамадзянскую свядомасць чалавек набывае не праз разбурэнне і пагарду да мінуўшчыны, а праз павагу да яе. Нават простае сузіранне старых камяніц садзейнічае паглыбленню і ўзвышэнню душы.

БОЛБАТ: Але хто ж мусіць праявіць належны клопат пра зберажэнне старых муроў?

Можа, скажаце, пра што тут гаворка – не варта тая аўчынка выбраў, неразумна марнаваць сродкі на тыя пяць лістоў шыферу, мяшок цэменту ды тры кубы дошак для гэтага "пакгаўзу", які нам падаецца такой каштоўнасцю. У адказ можна задаць пытанне (і яго задаюць людзі ў розных пунктах раёна): а хіба разумна траціць сродкі на руйнаванне моцных будынкаў, якія страцілі статус выкарыстаных па гаспадарчым прызначэнні? Прыкладаў колькі заўгодна.

Законам, нібыта, і прапісаны абавязкі пэўных дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый у сферы аховы помнікаў. Але ці знойдзецца хоць адзін пратакол спецыяльных паседжанняў нашых уладных органаў, прысвечаных уратаванню ад разбурэння помнікаў архітэктуры, якія гінуць на нашых вачох? Ці біла ў званы раённая архітэктура? Ці займаліся пракуратура або міліцыя пошукам і пакараннем аматараў вывучаць помнікі мінуўшчыны з дапамогай лому?

Спадзявацца на грамадскія арганізацыі было б па меншай меры наіўна. Раённае таварыства аховы помнікаў і так зрабіла і робіць агромністую працу па ўліку і маніторынгу стану соцень ахоўных аб'ектаў, арганізацыі шэфства над імі, прапагандзе ведаў праз друк, конкурсы, паходы і экскурсіі. Але ў гэтай арганізацыі няма такіх функцый, як прымус гаспадарнікаў, уладальнікаў, арандатараў і адказных асоб да выканання закону і пакаранне за яго парушэнні.

Дык з чаго пачнем? Ці будзем і надалей чакаць, пакуль уся даўніна ператворыцца ў друз?..

# ДЗЕЛЯ БУДУЧАЙ БЕЛАРУСІ

"Нацыянальны пантэон герояў: падмурак гуманітарнай бяспекі Беларусі" – такім рэфрэнам гучалі выступы на чарговай сустрэчы пра Нацыянальны пантэон герояў, якую зладзілі сацыял-дэмакраты і мясцовыя актывісты Полаччыны і Верхнядзвіншчыны.

"У гэты раз мы аб'ядналі свае намаганні яшчэ з адным вядомым грамадскім аб'яднаннем рэгіёна – Полацкім раённым аддзяленнем ГА "Таварыства беларускай мовы", – расказвае арганізатар сустрэчы, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСДП Валянціна Болбат.

Мерапрыемства сабрала больш сямідзесяці чалавек: выкладчыкі Полацкага ўніверсітэта, вядомыя краязнаўцы Полаччыны і Верхнядзвіншчыны – М.Баўтовіч, М.Карасёў і В.Крук, імя якой у абласной кнізе выдатнейшых краязнаўцаў Віцебшчыны, сябры Полацкай і Наваполацкай арганізацый БСДП, актывісты грамадскіх арганізацый.

Якія постаці нашага далёкага і выдатнага мінулага "аселі" у памяці беларусаў? Хто з герояў вярнуўся з гістарычнага нябыту з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі? Жаночае аблічча пантэону: чаму ў сучасны гістарычны наратыў інтэграваны толькі фігуры культурнага пантэону, як, напрыклад, Еўфрасіння Полацкая ці Рагнеда? – гэтыя і шэраг іншых пытанняў зацікаўлена абмяркоўвалі ўдзельнікі сустрэчы, якая прайшла ў Дні святкавання ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну. Гэтай падзеі таксама была прысвечана частка імпрэзы, якую вяла кандыдат гістарычных навук, гісторык Ніна Стужынская.

"Імпрэзы па "Гісторыі, якой няма ў падручніках" мы праводзім на працягу апошніх двух гадоў і гэта тэматыка прыцягвае ўвагу людзей розных поглядаў, бо ёсць вялікая цікавасць да сапраўднай гісторыі нашай краіны, гісторыі, багатай на падзеі, асабліва да тых яе старонак, якія раней замоўчваліся, не знаходзілі адлюстравання ў падручніках і выданнях, – дадае Валянціна Болбат.

http://bsdp.org/?q=be/node/10854

# ЗАТРЫМАЛІ ПА ДАРОЗЕ Ў ШКЛОЎСКУЮ КАЛЁНІЮ

Актывісты зьбіраліся наведаць калёнію, дзе адбывае пакараньне Мікола Статкевіч.

Аднак супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну, якой кіраваў віцебскі каардынатар руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў, яшчэ на выезьдзе зь Віцебску. Апрача гаспадара, у машыне былі незалежны журналіст Зьміцер Казакевіч, сябра КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў і Аляксей Гаўруцікаў, давераная асоба Мікалая Статкеівіча ў час мінулай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.

"Машыну спынілі каля пасёлку Акцябарскі. Спадару Жаляпаву сказалі, што падобная машына была зафіксаваная ў ДТЗ ў Менску яшчэ 30 лістапада, каля гадзіны ночы. Таму гаспадар мусіць даць падрабязныя тлумачэньні, што ён рабіў у той час. Нас, траіх, абавязалі знаходзіцца тут жа, у абласной управе ДАІ, у якасьці сьведак," – распавёў Аляксей Гаўруцікаў.

Ён дадаў, што пра візыт віцебскіх актывістаў у шклоўскай калёніі ведалі загадзя: напярэдадні яны тэлефанавалі туды, каб даведацца, калі можна трапіць на прыём да начальніка. Як высьветліліся, якраз у панядзелак 19 сьнежня ў яго прыёмны дзень, і віцебскія актывісты меркавалі пагутарыць пра ўмовы ўтрыманьня палітвязьня ў гэтай установе.